# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

## Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 3 — 4 лістапада 1928 г. — № 3

ЗЬМЕСТ



# Праз конкурс да палепшаньня дзейнасьці саветаў.

Прэзыдыум ЦВК БССР пастанавіў правесьці з 1-га сьнежня г. г. да 1-га красавіка наступнага году конкурс на лепшую сэкцыю гарсавету, лепшы сельсавет і яго камісіі. Гэта пастанова ў справе ажыўленьня дзейнасьці саветаў, масавай праверкі іх дзейнасьці мае вялікае значэньне. Конкурс на лепшысельсавет, местачковы савет і лепшую сэкцыю і камісію дасьць, бязумоўна, станоўчыя вынікі яшчэ і таму, што яго правядзеньне саўпадае з перавыбарамі саветаў, у якіх будуць удзельнічаць самыя шырокія масы рабочых і сялян, уся савецкая грамадзкасьць.

Апошнія пяць год прайшлі пад знакам ажыўленьня дзейнасьці саветаў; пры гэтым асаблівая ўвага ўдзялялася ўзмацненьню дзейнасьці нізавых саветаў. Лёзунг партыі «тварам да вёскі», які партыя праводзіла ў 1924-25 г., зьявіўся рашучым пераломам у жыцьці і працы нізавых саветаў. Калі параўнаць сучасны сельсавет з сельсаветам часу так званага «ваеннага камунізму», мы знойдзем глыбокія зьмены. За апошнія гады мы маем зьмены ў арганізацыі саветаў—значна зьмяніліся зьмест, формы і мэтады работы саветаў. Саветы як гарадзкія, так і сельскія ў апошнія гады падыйшлі да непасрэднага вырашэньня задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва гораду і вёскі, да вырашэньня агульных задач сацыялістычнага будаўніцтва. З асаблівым здавальненьнем трэба канстатаваць значнае палепшаньне ў параўнаньні з мінулым матар'яльнай базы (бюджэту) і масавай работы саветаў, гэтых галоўных фактараў ажыўленьня дзелавой, культурна-гаспадарчай дзейнасьці саветаў. Аднак, разам з дасягненьнямі, мы маем яшчэ шмат і недахопаў як у масавай, так і ў практычнай рабоце паасобных саветаў.

Асноўнымі мэтамі конкурсу зьяўляецца: праверыць наколькі саветы, іх камісіі і сэкцыі ў сваёй штодзённай практычнай рабоце праводзяць правільную клясавую палітычную лінію, праз арганізацыю конкурсу знайсьці лепшыя прыклады ў працы саветаў і распаўсюдзіць іх на ўсе саветы Беларусі; выявіць усе недахопы, памылкі, усё адмоўнае ў працы саветаў і зьнішчыць гэтае дрэннае.

Правільна арганізаваны конкурс павінен максымальна прыцягнуць увагу ўсіх працоўных, усяе савецкае грамадзкасьці да работы саветаў, дапамагчы далейшаму ажыўленьню дзейнасьці саветаў.

Існуючае на працягу трох апошніх год новае Палажэньне аб гарадзкіх саветах, даўшае гарсаветам самастойны апарат, бюджэтныя і адміністрацыйныя правы, стварыла добрую глебу для палепшаньня працы сэкцый. Работа сэкцый гарсаветаў мае вялікае значэньне як першае дзелавое зьвяно калектыўнай дзейнасьці ўсяго гарсавету і асабліва вялікая роля сэкцыі, як падрыхтоўчай школы палітычнага выхаваньня працоўных мас для дзяржаўнага кіраваньня і сацыялістычнага будаўніцтва. Толькі на дзелавой працы сэкцый і камісій саветаў мы зможам выяўляць і выхоўваць актыў з рабочых і сялян ад вытворчасьці; на пасяджэньнях сэкцый і камісій можна і неабходна нагледаць і выкарыстоўваць ініцыятыву і ўсё лепшае, што ёсьць сярод нашага актыву для справы сацыялістычнага будаўніцтва. Праз калектыўную працу сэкцый і камісій мы будзем ведаць хто як вучыцца працаваць, хто лепш разьбіраецца ў пытаньнях нашага будаўніцтва, хто найбольш актыўны пры абгаварэньні пытаньняў, хто ўносіць найбольш правільныя і дзелавыя прапановы; хто акуратна наведвае пасяджэньні, выконвае абавязкі і робіць рэгулярна справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі.

Таму сэкцыі гарсаветаў павінны стаць сапраўднай школай выхаваньня і далейшага вылучэньня рабочых і работніц на адказную кіраўнічую савецкую працу ў прэзыдыумах, выканкомах і іх аддзелах. Сэкцыя гарсавету і камісія сельсавету зьяўляюцца першай ступенькай высокай савецкай лесьніцы, таму зразумела, што толькі яны могуць правільна выхаваць і загартаваць работніка ў нізах, у масе для кіраўнічай савецкай працы. Кіраўнікі сэкцый павінны на конкурсу сказаць, як сэкцыя, якою яны кіруюць, ажыцьцяўляе выхаваўчыя задачы і роль

падрыхтоўчых дзелавых органаў савятаў.

Тое самае трэба сказаць і пра камісіі сельскіх і местачковых саветаў (застанаўліваючыся на іх спэцыяльна) в тэй розьніцай, што праца гэтых камісій праходзіць у больш цяжкіх умовах, чым праца сэкцый гарсаветаў. Тэрытарыяльная адлегласьць, раскіданасьць вёсак, параўнальна вялікая няпісьменнасьць сярод насельніцтва і асабліва сярод сялянак, слабасьць матар'яльнай базы саветаў—усе гэтыя прычыны зьяўляюцца значнай перашкодай працы камісій. Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя аб'эктыўныя ўмовы, праца сельсаветаў і іх камісій з кожным годам паляпшаецца, актыўнасьць батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі расьце і гуртуецца вакол саветаў для рознай грамадзкай работы і барацьбы з кулацтвам і іншымі варожымі элемэнтамі на вёсцы, Гэты савецкі актыў вёскі, усе перадавыя сяляне і сялянкі, якія ідуць за намі, павінны быць шырока скарыстаны на дзелавой працы ў камісіях, на пленумах саветаў.

Пашырэньне прадстаўніцтва ў саветы ў гэтым годзе дасьць нам магчымасьць уцягнуць у склад саветаў для непасрэднай працы ўдвая большую колькасьць вясковага актыву. Але мы не павінны абмяжоўвацца гэтым. Наша задача заключаецца ў тым, каб паступова ўцягнуць усё нагалоўна працоўнае насельніцтва ў працу па кіраўніцтву дзяржавай. Выходзячы з гэтага, мы павінны залучыць усё сьвядомае перадавое насельніцтва вёскі, вясковы актыў у працу камісій пры саветах, хаця-б яны і не зьяўляліся сябрамі савету. Камісіі павінны выхоўваць будучых вылучэнцаў сялян і сялянак вёскі для адказнай савецкай працы ў вышэйшых савецкіх установах. Камісіі павінны сапраўды дапамагаць у штодзённай дзелавой працы саветаў папярэдняй распрацоўкай важнейшых пытаньняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва беларускай вёскі і мястэчка.

На апошняй сэсіі ЦВК, сябры ЦВК, працуючыя на мясцох, у сваіх выступленьнях дэманстравалі шмат добрых прыкладаў масавай і практычна дзелавой працы саветаў. Гэткія саветы займуць перадавое месца прыкладаў у працы ўсіх саветаў; некаторыя лепшыя з іх, бязумоўна, атрымаюць адпаведныя прэміі конкурсу. Конкурс зьявіцца экзаменам працы саветаў перад масамі працоўнага народу. Што скажуць у час конкурсу кіраўнікі тых сельсаветаў і іх камісій, дзе надта нерэгулярна скліکаліся пленумы і прэзыдыумы саветаў, дзе камісіі не вялі амаль ніякай працы, дзе ня было калектыўнай працы, дзе наглядалася скажэньне клясавай лініі, адсутнасьць справаздачнасьці перад выбаршчыкамі, парушэньне савецкай дэмакратыі; дзе не вялося працы па згуртаваньню батрацтва і бядняцка-серадняцкага актыву, дзе затушоўвалася крытыка савецкага актыву.

Усё гэта, як адмоўнае ў працы саветаў, будзе ўсімі працоўнымі масамі і савецкай грамадзкасьцю праз конкурс асуджана. Будуць зроблены належныя вынікі і ўжыты належныя меры да зьнішчэньня дрэнных, адмоўных зьявішч у працы нашых саветаў.

Праверка працы саветаў, сэкцый і камісій павінна паказаць ня толькі работу саветаў, а разам з гэтым і кіраўніцтва з боку вышэйстаячых органаў дзейнасьцю нізавых саветаў.

Праз правядзеньне конкурсу, праз масавае абсьледваньне работы саветаў, праз перавыбарчую кампанію мы павінны дабіцца таго, каб нашыя саветы падняліся яшчэ на больш высокую ступень у сацыялістычным будаўніцтве, каб яны ўсе сталі не на словах, а на справе сапраўднымі цэнтрамі мабілізуючымі актыўнасьць мільённых мас для ўзьняцьця народнай гаспадаркі, разгортваньня савецкай культуры на шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

У выніку конкурсу мы павінны дамагчыся ўзмацненьня ролі саветаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту, органаў, якія зьяўляюцца непасрэднымі кіраўнікамі і ініцыятарамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на мясцох, гуртуючы навокал сваей дзейнасьці і ўцягваючы ў яе праз сэкцыі, камісіі і іншыя формы масавай работы, шырачайшыя колы актывістаў і актывістак з рабочых, батракоў, вясковай бедваты, сераднякоў і іншых працоўных.

Маючы на ўвазе неабходнасьць вырашэньня надзвычайна важных палітычных задач праз арганізацыю конкурсу, які будзе праходзіць пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі з актыўным удзелам усіх савецкіх органаў у цэнтры і на мясцох, мы заклікаем на конкурс усіх працоўных, усю савецкую грамадзкасьць Беларусі.

Зразумела, што толькі пры ўдзеле самых шырокіх мас савецкага актыву, камсамолу, прафсаюзаў, каапэрацыі, рабселькораў, крэсткомаў, культурных сіл і ўсіх грамадзкіх арганізацый—мы зможам вынесьці на грамадзкі суд конкурсу:—бюракратызм, «зажымы», нядбайнасьць, безгаспадарчасьць, п'янства, хабарніцтва і ўсе іншыя хваробы нашага савецкага апарату. Толькі выявіўшы ўсё гэта праз крытыку і конкурс з шырокім асьвятленьнем фактаў на старонках газэт, на сходах, мы зможам аздаравіць наш савецкі апарат, падняць дзейнасьць саветаў, абгарнуць іх савецкім актывам, савецкай грамадзкасьцю. Роля нанашага друку ў правядзеньні конкурсу, асабліва арміі рабселькораў, ставіцца перад усёй савецкай грамадзкасьцю на першае месца. Матар'ялы конкурсу не павінны замыкацца ў габінэтах саветаў, камісій, выканкомаў, іх трэба выкладваць на старонкі газэт да ведама і крытыкі ўсяго працоўнага насельніцтва гораду і вёскі.

Для арганізацыі, кіраўніцтва і садзейнічаньня правядзеньню конкурсу арганізуюцца пры выканкомах і саветах спэцыяльная камісіі з прадстаўнікоў савецкіх, грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый. Трэба зараз-жа распачаць гэту працу. Арганізаваць і безадкладна склікаць пленумы саветаў, пасяджэньні сэкцый, камісій і абгаварыць пытаньні конкурсу. Паставіць даклады аб конкурсе на сходах прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый, рабкораў і селькораў, на сходах рабочых, батракоў, беднаты і наогул сялян вёскі, на спэцыяльных нарадах жанчын-дэлегатак, жаночага актыву.

Сур'ёзнымі адносінамі да правядзеньня конкурсу на лепшы сельсавет, яго камісію і сэкцыю гарсавету з упэўненасьцю трэба сказаць, што мы значна ажывім дзейнасьць саветаў, палепшым савецкі апарат, яшчэ шчыльней зьвяжам шырокія беспартыйныя масы рабочых і сялян з партыяй і органамі савецкай улады.

**А. Хацкевіч.**

## Праз перавыбары, праз конкурс узьнімем саветы на вышэйшую ступень, яшчэ больш зьвяжам іх з шырокімі масамі рабочых і сялян, зробім іх сапраўднымі кіраўнікамі жыцьця і социялістычнага будаўніцтва на мясцох.

ім важнасьць іх актыўнага ўдзелу ў перавыбарах;

д) дапамагчы рабкорам, сьценкорам і селькорам у выпуску фабрычных (сьцякольшчыкі, наперачнікі, тэкстыльнічыкі, дрэваапрацоўнікі і г. д.), саўгаскіх і батрацкіх насьценгазэт, прысьвечаных перавыбарам, гэтыя-ж газэты могуць быць перасунуты ў бліжэйшыя хаты-чытальні.

4. Прафарганізацыі абавязаны прыняць усе захады к падрабязнаму азнаямленьню выбраных у саветы дэпутатаў з іх функцыямі і абавязкамі, як членаў саветаў; к шырокаму абвяшчэньню рабочых аб тым, хто выбраў у савет ад прадпрыёмства, цэху, якую работу ён выконвае ў савеце. Павінна быць зьвернута большая ўвага на ўзмацненьне сувязі дэпутатаў з сваімі выбаршчыкамі, прычым неабходна сачыць, каб дэпутаты своечасова інфармавалі рабочых свайго цэху, аддзелу аб усіх важнейшых рашэньнях савету, растлумачвалі рабочым цікавячыя іх пытаньні, а таксама аказвалі садзейнічаньне рабочым у здавальненьні іх бытавых і культурных запатрабаваньняў, вырашэньне якіх датычыцца савету.

5. Прафсаюзныя органы павінны сачыць, каб дэпутаты пэрыядычна высьвятлялі і правяралі выконваньне саветамі наказаў наогул і асабліва ў тэй частцы, якая датычыцца непасрэдна данага прадпрыёмства і інфармавалі рабочых аб выкананьні або прычынах, выклікаўшых затрымку ў выкананьні наказа. Для больш насьпяховага правядзеньня дэпутатамі гэтых абавязкаў, праф. арганізацыі павінны аказваць ім садзейнічаньне ў працы, дапамагчы ім у разьмеркаваньні на сэкцыях, у склiку дэпутатаў данага прадпрыёмства для абмену вопытам работы і ўстанаўленьня парадку абслугоўваньня рабочых.

Прафарганізацыям неабходна пераглядзець нагрузку выбраных у саветы прафсаюзнымі і грамадзкімі абавязкамі і правесьці такое пераразьмеркаваньне іх, каб дэпутаты мелі максымальную магчымасьць прымаць актыўны ўдзел у рабоце савету.

Ажыцьцяўленьнем пералічаных мерапрыёмстваў прафсаюзы забясьпечуць дасягненьне і пасьпяховае вырашэньне вышэйадзначаных галоўных задач надыходзячых перавыбараў. Далейшага павялічэньня палітычнай актыўнасьці рабочых і бяднейшых сялян, яшчэ большага замацаваньня пралетарскай дыктатуры, кіраўнічай ролі рабочай клясы, замацаваньня бядняцка-серадняцкага блёку на аснове рашучага адпору кулацтву і іншым варожым савецкай уладзе элемэнтам гораду і вёскі.

**Ф. Ісаеў.**

---

# Удзел жанчын у перавыбарнай кампаніі.

Галоўнымі недахопамі мінулых перавыбараў саветаў па лініі ўцягненьня жанчын зьяўляюцца наступныя:

На-першае, ня гледзячы на ўзросшую актыўнасьць працоўных жанчын гораду, фабрыкі і вёскі, меўся ўсё яшчэ нязначны ўдзел іх у перавыбарах саветаў. Па ўсёй Беларусі процант жанчын, уцягнутых на справаздачныя і выбарчыя сходы, дасягаў 26,4 проц. Гэта значыць, што $^2/_3$ жаночага насельніцтва ніякага удзелу ў галоўнай палітычнай кампаніі, якой зьяўляюцца перавыбары саветаў, ня прымалі. Дзякуючы гэтаму, вельмі зьніжаецца і агульны процант выбаршчыкаў, удзельнічаўшых у перавыбарах.

На-другое, з году ў год—ужо чацьверты раз—у нас па БССР заўважваецца тэндэнцыя зьніжэньня проценту жанчын у складзе сельскіх і местачковых саветаў. Так, напрыклад, у 1924 г. мы мелі ў сельскіх саветах 12 проц. сялянак, у 1925 г. ужо маем 9,2 проц., а ў 1926 г.—8,4 проц. і ў 1927 г. 7,0 проц. Такім чынам, мы бачым паступовае зьніжэньне проценту жанчын, абраных у саветы, на вёсцы і ў мястэчку.

На-трэцяе, побач з павялічэньнем колькасьці жанчын у гарсаветах, на 2,7 проц. у акруговых гарадох, і неакруговых на 1,9 проц. усё-ж такі вельмі слаба ўцягнута ў саветы жанчына-работніца, асабліва працуючая на буйных фабрыках тавіх гарадоў, як Барысаў, Віцебск, Гомель.

На-чацьвертае, яшчэ вельмі нязначная колькасьць жанчын на кіруючай рабоце ў якасьці старшынь саветаў, членаў прэзыдыумаў гарсаветаў, райвыканкомаў, акрвыканкомаў.

У надыходзячую кампанію перавыбараў гэтыя недахопы павінны быць зьнішчаны. Уся савецкая грамадзкасьць павінна зараз-жа рашуча ўзяцца за выпрацоўку мерапрыёмстваў, якія далі-б пералом у галіне ўцягненьня жанчын у саветы і іх кіруючыя органы.

Неабходна павялічыць удзел выбаршчыкаў з ліку працоўных жанчын, пагалоўна ўцягнуўшы ў перавыбары ўсіх работніц, асабліва на буйных прадпрыёмствах; павялічыць удзел сялянак у перавыбарах, пры гэтым найбольш павышаючы актыўнасьць у выбарах батрачак і бяднячак. Неабходна таксама павялічыць удзел у перавыбарах жонак рабочых і саматужніц.

Неабходна зараз-жа пачаць падрыхтоўку да таго, каб максымальна павялічыць выбарны актыў жанчын у складзе сельскіх і местачковых саветаў, ні ў якім выпадку не застанаўліваючыся на мінулагоднім проценце. У гарадзкіх саветах неабходна павялічыць колькасьць работніц з вытворчасьці, асабліва ў гарадох, дзе маецца кампактная маса работніц.

**Трэба ўцягнуць у склад гарадзкіх і местачковых саветаў ня менш 25 проц. работніц, а ў сельсаветы—ня менш 20 проц. батрачак і бяднячак-сялянак.**

Неабходна ўзяць больш рашучы курс на замацаваньне працуючых на кіруючай працы і на больш сьмелае вылучэньне новых работніц і сялянак на самастойную кіруючую работу. Пашырыць вылучэньне работніц і сялянак на кіруючую працу ў якасьці старшынь і сакратароў сельскіх і местачковых саветаў, гарсаветаў, прэзыдыумаў райвыканкомаў і акрвыканкомаў.

Гэта ня цяжка зрабіць, бо мы добра ведаем, што маецца значны актыў работніц і сялянак, які спраўляецца ўжо зараз добра з працай і як сябр савету, і як адказны працаўнік яго кіруючага органу. Мы маем добра падрыхтаваны актыў, які прайшоў школу курсаў грамадчыц ЦВК, ёсьць кадр работніц, сялянак і батрачак добра падрыхтаваных да кіруючай працы ў органах саветаў.

Каб у надыходзячую кампанію перавыбараў зьнішчыць тыя недахопы, якія мы мелі ў мінулых перавыбарах, неабходна зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі гэтых пытаньняў, праводзіць як у горадзе, так і на вёсцы падрыхтоўчую працу да перавыбараў саветаў такім чынам, каб у гэтым годзе стварыць рашучы пералом у галі-

не падняцьця актыўнасьці жаночай часткі насельніцтва. Пры намячэньні пляна ў справаздачных і перавыбрчых сходаў неабходна намеціць таксама плян падрыхтоўчай працы сярод жанчын, асабліва прадвыбарчых сходаў жанчын, галоўным чынам на вёсцы.

*У горадзе* неабходна на буйных прадпрыёмствах склікаць спэцыяльная канфэрэнцыі работніц па пытаньнях перавыбараў і ўдзелу ў іх рабоце, асабліва на такіх фабрыках, як „Дзьвіна,“ «Высачаны» ў Віцебску, «Бярэзіна»—у Барысаве, „Вэзувi“, «Днепр», «Добруш»—у Гомелі і г. д. Канфэрэнцыямі неабходна абхапіць найбольш адсталых работніц, мала ўцягнутых у грамадзкую работу.

Для таго, каб больш прыцягнуць да перавыбараў распылёных работніц, жонак рабочых і саматужніц неабходна склікаць агульна-гарадзкія канфэрэнцыі з гэтых груп, па якіх абгаварыць дэтальна тыя пытаньні, якія трэба ставіць перад масай у зьвязку з перавыбарамі саветаў.

*На вёсцы* неабходна склікаць спэцыяльныя масавыя сходы сялянак, якія павінны быць скліканы раней, чым пачнецца справаздачная кампанія. На гэтых сходах абмеркаваць усе пытаньні перавыбараў саветаў і ўдзелу ў іх жанчын.

У кампаніі перавыбараў трэба больш скарыстаць дэлегацкія сходы. Дэлегацкія сходы павінны стаць асяродкам працы сярод жаночых працоўных мас у галіне падняцьця іх актыўнасьці ў надыходзячую кампанію перавыбараў. Трэба скарыстаць кожную дэлегатку для таго, каб правесьці агітацыю сярод паасобных груп працоўных жанчын за актыўны ўдзел у перавыбарах. Трэба выкарыстаць актыў у горадзе і на вёсцы ў гэтых-жа мэтах. Кожная грамадчыца, кожная старая дэлегатка і ўдзельніца ў грамадзкай працы павінна быць нагружана працай сярод працоўных жанчын. Дэлегацкія сходы, як арганізаваныя адзінкі грамадзкай працы, трэба максымальна скарыстаць дзеля падрыхтоўкі працоўных жанчын да справаздачнай кампаніі, кампаніі перавыбараў і падрыхтоўкі кандыдатур жанчын, якіх будуць абіраць у саветы. Дэлегацкі сход павінен заняць асаблівае месца ў справе арганізацыі ў час перавыбараў вакол сябе жанчын недэлегатак, у справе дапамогі партыйным і савецкім органам у правядзеньні кампаніі і прыцягненьні на выбары жанчын. Мы ведаем добра, што там, дзе ў мінулыя перавыбары дэлегацкі сход такім чынам працаваў, там лепш удзельнічала жанчына і больш уцягнута жанчын нават у сельскія саветы. Напрыклад, возьмем Мазыршчыну, там дэлегаткі вельмі актыўна працавалі, яны разьбівалі паміж сабой вёскі на вучасткі і кожная дэлегатка адказвала перад дэлегацкім сходам за яўку жанчын свайго вучастку. Яны раіліся з жанчынамі аб кандыдатурах, якія трэба намеціць у саветы і потым абмяркоўвалі гэтыя кандыдатуры на дэлегацкіх сходах і рэкамандавалі іх ячэйцы. Такія кандыдатуры жанчын патрымліваліся ўсей грамадзкасьцю і пры вялікам здавальненьні праводзіліся ў савет. Гэты вопыт трэба будзе скарыстаць і пашырыць ва ўсіх акругах і раёнах. Трэба выкарыстаць дэлегатак і актыў жанчын да таго, каб сачыць за тым, ці не робіцца адступленьняў ад перадачы пэрсанальна позваў жанчынам. Трэба будзе сачыць за тым, каб рашэньні цэнтральнай выбарчай камісіі не засталіся на паперы і праводзіліся ў жыцьцё. У гэтай справе трэба мабілізаваць дэлегатку і актыў.

Задача падняцьця актыўнасьці жаночых працоўных мас можа быць выпаўнена толькі пры тым, калі ва ўсёй кампаніі перавыбараў будзе завострана ўвага на гэтым пытаньні і з боку АВК, РВК і ўсіх савецкіх органаў. Трэба уважліва, сур'ёзна і ўпарта сачыць за тым, каб намечаныя на мясцох практычныя мерапрыемствы па падняцьцю актыўнасьці жаночай часткі насельніцтва праводзіліся ў жыцьцё. Трэба гэтыя мерапрыемствы абмяркоўваць на плёнумах акруговых раённых выканаўчых камітэтаў, гарадзкіх і сельскіх саветву. Трэба праверыць гэтыя мерапрыемствы і ўходзе кампаніі выпраўляць тыя недахопы, якія выяўляюцца на мясцох. Толькі тады мы сапраўды выканаем тое, што намечана і зробім рашучы пералом у гэтай галіне працы.

Крэмер.

## Агляд пастаноў прэзыдыуму ЦВК БССР па пытаньнях будаўніцтва Саветаў.

**За кастрычнік 1928 г.**

I. 1 кастрычніка прынята пастанова аб зьмене 3 арт. Палажэньня аб сельскіх саветах і арт. 3 Палажэньня аб местачковых саветах. Сутнасьць гэтых зьмен—паніжэньне норм прадстаўніцтва ў гэтыя саветы. Зараз будзе выбірацца ў сельскія і местачковыя саветы 1 дэпутат ад 100 жыхароў, а не ад 200, як гэта было раней. Мэты выданьня гэтае пастановы—больш поўнае ўцягненьне актыву вёскі і мястэчка ў практычную работу саветаў і забясьпечаньне ў саветах выстарчальнага прадстаўніцтва асобных залюднёных пунктаў.

II. 1 кастрычніка зацьверджан цыркуляр усім акрвыканкомам аб перавыбарах саветаў. Гэтым цыркулярам прапануецца: безадкладна разгарнуць кампанію па азнаямленьні шырокіх працоўных мас з асноўнымі задачамі перавыбараў і з інструкцыяй аб выбарах у саветы; утварыць масавае абсьледваньне саветаў, выканкомаў і іх камісій і сэкцый; разгарнуць максымальна шырокую справаздачнасьць саветаў, выканкомаў, паасобных установ і абавязкова ўсіх рэвізійных камісій; ужыць крокі да павялічэньня актыўнасьці працоўных у выбарчай кампаніі; прыцягнуць савецкую грамадзкасьць да перагляду сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права; забясьпечыць абслугоўваньне ў выбарчай кампаніі нацменшасьцяй; актыўны ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі членаў ЦВК, АВК і РВК, якія працуюць на мясцох; забясьпечыць арганізацыйна-тэхнічнае абслугоўваньне перавыбарчай кампаніі; АВК, РВК і гарадзкім саветам надрукаваць кароткія справаздачы аб сваёй дзейнасьці для азнаямленьня з імі выбаршчыкаў.

III. 19 кастрычніка ўстаноўлены парадак і формы выкананьня пастановы III Сэсіі ЦВК БССР VIII-га скліканьня па дакладу аб масавай рабоце саветаў. Дан шэраг даручэньняў паасобным камісарыятам. Прапанована акруговым выканаўчым камітэтам адводзіць у акруговай газэце старонку аб працы саветаў і выканкомаў і сыстэматычна асьвятляць сваю арганізацыйна-масавую работу на старонках «Саветы Беларусі».

IV. 27 кастрычніка прынята пастанова аб пашырэньні праў раённых рэвізійных камісій і рэвізійных камісій пры сельскіх і местачковых саветаў. Раённыя рэвізійныя камісіі зараз маюць права правяраць выкананьне райвыканкомам пастаноў раённых зьездаў саветаў і сельскія і местачковыя камісіі—права правяраць выкананьне саветамі наказаў выбаршчыкаў.

А. П.

# У Цэнтральнай Выбарчай Камісіі.

18-га кастрычніка адбыўся пленум Цэнтральнай Выбарчай Камісіі.

На пленуме старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі тав. Хацкевіч зрабіў даклад аб мерапрыёмствах па перавыбарах саветаў.

Быў зацьверджан у аснову плян працы Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, якім прадугледжваецца на працягу кампаніі зрабіць абсьледваньні ў кожнай акрузе і заслухаць даклады кожнай акруговай выбарчай камісіі. Таксама будзе заслухана Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй у працягу кампаніі па некалькі дакладаў гарадзкіх і раёных выбарчых камісій.

Пленум Цэнтральнай Выбарчай Камісіі задаволіў хадайніцтва ЦС Управы аб аслабаненьні яе ад атрыманьня і распрацоўкі апэрацыйных статыстычных даных (г. зн. тэлеграфных пяцідзённых вестак) па перавыбарах. Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў гэтую пастанову Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і ўсклаў распрацоўку апэрацыйнай выбарчай статыстыкі на аргаддзел Прэзыдыуму ЦВК.

Адначасна з гэтым і на мясцох распрацоўка і выдача гэтых даных ускладзена Прэзыдыумам ЦВК на саветы, выканкомы і іх выбарчыя камісіі.

Па дакладу тав. Хацкевіча ўхвалена пастанова, якой вызначаецца шэраг дадатковых практычных мерапрыёмстваў па перавыбарах; з прычыны важнасьці гэтае пастановы друкуем яе цалкам.

---

# Пастанова

## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ПРЫ ПРЭЗЫДЫУМЕ ЦВК БССР

### аб праробленай працы і дадатковых практычных мерапрыёмствах па падгатоўцы і правядзеньню справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў БССР.

1. Адзначаючы, што акруговыя і раёнwarныя выканаўчыя камітэты і гарсаветы ў асноўным своечасова паставілі пытаньне аб падрыхтоўцы да надыходзячых перавыбараў саветаў і ажыцьцяўляюць шэраг канкрэтных мерапрыёмстваў зьвязаных з гэтай падгатоўкай, Цэнтральная Выбарчая Камісія разам з гэтым канстатуе, што ў сельскіх саветах і часткі РВК падгатоўчая да перавыбараў работа разгорнута яшчэ слаба.

Гэта выклікае неабходнасьць акруговым і раёнымі выбарчым камісіям безадкладна зрабіць усе захады да нармальнага разгарненьня прадвыбарчай кампаніі ў сельскіх саветах. У прыватнасьці—праверыць выкананьне дадзеных у зьвязку з перавыбарамі дырэктыў, шляхам абсьледваньняў, выездаў на месцы, выкліканьня мясцовых працаўнікоў з дакладамі і ўстанаўленьня сыстэматычнае пісьмовае сувязі з нізавымі саветамі і выканкомамі.

2. Не абмяжоўваючыся праверкай выкананьня дадзеных дырэктыў, акруговыя і раёныя выбарчыя камісіі павінны ўсямерна дапамагчы ў іх (дырэктыў) правядзеньні нізавым выбарчым камісіям, арганізаваўшы сталае кіраўніцтва імі і іх інструктаваньне. Зараз-жа прымацаваць патрэбную колькасьць працаўнікоў акруг і раёнаў да сельскіх саветаў, склікаць і правесьці акруговыя і раёныя інструкцыйныя нарады па пытаньнях перавыбараў, даваць мясцовым працаўнікам канкрэтныя наказаньні пры абсьледваньнях і выездах на месцы і пры заслухоўваньні іх дакладаў.

3. Справаздачная кампанія павінна ў максымальнай меры высьвятліць перад масаю выбаршчыкаў і паставіць на яе разбор і дзелавую крытыку работу ўсіх савецкіх органаў, устаноў і арганізацый. Дзеля гэтага сельскія і мястэчковыя саветы і іх рэвізійныя камісіі павінны, безумоўна, адлічыцца па кожным выбарчым вучастку.

На справаздачах саветаў павінны прысутнічаць і актыўна ўдзельнічаць у справаздачных сходах высьвятленьнем свае працы і дачай адказаў на запытаньні прадстаўнікі ўстаноў, прадстаўнікі арганізацый, дзейнасьць якіх закранае найбольш жыцьцёвыя інтарэсы выбаршчыкаў данага вучастку (каморнікі, аграномы, пастаўнікі, лясьніцтвы, мэдыцынскія і вэтэрынарныя працаўнікі, каапэратывы, камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, дзяржаўныя прадпрыёмствы, савецкія і калектыўныя гаспадаркі і г. д.).

4. Акруговыя і раёныя выканаўчыя камітэты, апрача справаздач на зьездах саветаў і пленумах саветаў і выканаўчых камітэтаў у максымальна магчымай меры павінны адлічыцца непасрэдна перад выбаршчыкамі, вызначыўшы на падставе вучоту мясцовых умоў тыя вучасткі, на якіх пастаноўка справаздач зьяўляецца найбольш патрэбнай і мэтазгоднай.

Справаздачы гэтыя ставіць на асобных ад справаздач саветаў сходах, каб увага выбаршчыкаў не адхілялася ад дзейнасьці нізавых савецкіх органаў, якія зьяўляюцца непасрэднымі кіраўнікамі мясцовага жыцьця, і каб паваколе справаздач саветаў магла быць разгорнута шырокая дзелавая крытыка выбаршчыкаў.

5. Паставіць, як задачу, у надыходзячую справаздачную кампанію ажыцьцяўленьне справаздачнасьці кожнага члена савету перад сваімі выбаршчыкамі аб сваёй асабістай дзейнасьці і рабоце савету. У падгатоўцы справаздач саветы павінны забясьпечыць неабходную дапамогу радавым сваім членам.

Асобна зьвярнуць увагу на справаздачнасьць жанчын і батрацтва ўсямерна дапамагчы ім і робячы ўсе магчымыя захады да павялічэньня актыўнасьці жанчын-грамадзян спрод выбаршчыкаў.

Таксама павінны быць прыцягнуты да справаздач працуючыя на мясцох члены ЦВК, АВК і РВК.

6. Справаздачы саветаў будаваць канкрэтнымі ў поўнай меры адказваючымі, як быў выканан летні наказ выбаршчыкаў, дадаткі да яго і прапановы ў працягу дзейнасьці савету, як ажыцьцяўляліся дырэктывы ўраду і вышэйшых органаў. Будуючы справаздачы пад кутом рашучай самакрытыкі недахопаў яскрава адзначыць дасягненьні ў рабоце і далейшыя практычныя яе задачы.

7. Наказы саветам павінны будавацца на падставе агульных палітычных задач і мерапрыёмстваў сацыялістычнага будаўніцтва і тых канкрэтных прапаноў і пажаданьняў выбаршчыкаў, якія будуць выяўлены ў час справаздачнай кампаніі.

Наказы павінны быць прапрацаваны сельсаветам у камісійным парадку і ўнесены на разгляд і зацьверджаньне выбарчых сходаў, асобна разглядаючы кожны пункт.

Наказы павінны быць сьціслымі, канкрэтнымі і зразумелымі па форме в поўным вучотам па зьместу ўмоў кожнага раёну і савету.

8. Лічыць пажаданым, каб акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы выдалі невялікія досыць папулярныя справаздачы для распаўсюджваньня сярод выбаршчыкаў, улічваючы пры гэтым абслугоўваньне нацыянальных меншасьцяй на роднай мове.

Прасіць Прэзыдыум ЦВК зрабіць загады аб выданьні кароткай друкаванай справаздачы аб дзейнасьці ўраду на ўсіх дзяржаўных мовах і справаздачы—плякатаў.

9. Пры арганізацыі выбарчых і справаздачных вучасткаў у мэтах забясьпечаньня больш поўнага ўдзелу выбаршчыкаў дамагацца, каб сярэдняя колькасьць выбаршчыкаў на вучастках была не больш 200-300 чалавек. У гэтых-жа мэтах па больш буйных населеных пунктах рэкамандаваць стварэньне некалькіх вучасткаў і як вопыт скліканьне сходаў у два тэрміны, каб усе выбаршчыкі кожнай сям'і маглі па чарзе ўдзельнічаць у сходах.

Прасіць прэзыдыум ЦВК унесьці ў гэтым напрамку адпаведныя зьмены ў інструкцыю аб выбарах у саветы.

10. Выбарчыя позвы павінны перадавацца выбаршчыкам членамі саветаў, або сельскімі выканаўцамі пад расьпіску асабіста; катэгарычна забараніць адступленьні ад пэрсанальнай перадачы позваў батракам і жанчынам.

Устанавіць адказнасьць за нядбайнасьць у рассылцы і няўручэньне выбарчых позваў выбаршчыкам.

11. Зьвярнуць увагу цэнтральных савецкіх органаў і грамадзкіх арганізацый на неабходнасьць дачы канкрэтных дырэктываў мясцом па сваёй лініі аб максымальным уцягненьні масы членаў і работнікаў іх, асабліва моладзі, да ўдзелу на справаздачных і выбарчых сходах, пастаноўкай сваіх справаздач, прадстаўленьнем памяшканьняў пад выбарчых і справаздачныя сходы і г. д., увязваючы ўсю сваю работу з мясцовымі выбарчымі камісіямі. Акруговым і раённым выбарчым камісіям паставіць у сваю чаргу перад усімі мясцовымі арганізацыямі, установамі і ведамствамі пытаньне аб іх удзеле ў перавыбарах.

12. Прасіць Прэзыдыум ЦВК даручыць адпаведным органам распрацаваць і выдаць загады аб арганізацыі аховы і забясьпечаньня нармальнага парадку правядзеньня выбарчых і справаздачных сходаў на мясцох.

13. У мэтах ажыўленьня дзейнасьці рэвізійных камісій сельскіх і местачковых саветаў і падняцьця іх ролі перад выбаршчыкамі, прасіць Прэзыдыум ЦВК пашырыць правы апошніх, надаўшы ім у дадатак да права рэвізаваньня грашова-гаспадарчай дзейнасьці саветаў, права праверкі выкананьня наказу выбаршчыкаў.

14. Рэкамэндаваць выбарчым камісіям уключыць у свае пляны працы правядзеньне прадвыбарчых сходаў і нарад беднаты, жанчын і батрацтва, увязваючы гэтыя пытаньні з адпаведнымі органамі.

Ва ўсёй кампаніі максымальна выкарыстаць мясцовы актыў, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і мясцовую савецкую інтэлігенцыю.

15. Зьвярнуцца з просьбай да ўсіх цэнтральных і акруговых органаў друку аб пастаноўцы імі шырокага сыстэматычнага асьвятленьня падгатоўкі і ходу справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

16. Падлічыць адыходзячых на заработкі з мэтай адзнакі іх адсутнічаньня ў сьпісках выбаршчыкаў па месцу пастаяннага пражываньня і ўключэньня іх у сьпісы па месцу працы, дзе прыцягнуць іх на выбарчыя і справаздачныя сходы.

17. Даручыць выбарчым камісіям на мясцох зьвязацца з органамі РС Чырвонае арміі там, дзе такія маюцца, каб забясьпечыць належны актыўны ўдзел чырвонаармейцаў у справаздачна-перавыбарчых сходах і выбарчых органах улады.

Дагаварыцца аб вылучэньні часткамі Чырвонае арміі працаўнікоў для ўдзелу ў арганізацыі і правядзеньні кампаніі, адначасова ўжыць канкрэтныя мерапрыёмствы па ўцягненьню ў перавыбары дапрызыўнікаў.

18. Для забясьпечаньня кіраўніцтва перавыбарчай кампаніяй праз сталы, сыстэматычны вучот працы на мясцох, даручыць акруговым выбарчым камісіям пасылаць у Цэнтральную Выбарчую Камісію інфармацыйныя сводкі аб ходзе кампаніі з дакладнымі лічбамі і магчыма больш поўным пералікам канкрэтных фактаў, праз кожныя два тыдні, пачынаючы з 15 кастрычніка.

19. Пацьвердзіць разасланыя летась формы выбарчай статыстыкі і вучоту, і прапанаваць акруговым выбарчым камісіям безадкладна праверыць наяўнасьць патрэбнае колькасьці форм і ў выпадку патрэбы зараз-жа прыступіць да іх загатоўкі.

20. Даручыць акруговым выбарчым камісіям высьвятліць выкананьне гэтых дырэктыў у чарговай двохтыднёвай сводцы.

Старшыня Цэнтральнай Выбарчай
Камісіі пры Прэзыдыуме
ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

Сакратар **Баркан.**

# Галоўныя моманты падрыхтоўчай работы да перавыбараў саветаў.

Асноўныя палітычныя дырэктывы перавыбарчай кампаніі саветаў і практычныя шляхі іх правядзеньня ўжо дадзены. Месцы амаль поўнасьцю падрыхтаваны да правядзеньня арганізацыйных мерапрыёмстваў па падрыхтоўцы справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Да пачатку справаздачнай кампаніі застаўся кароткі тэрмін (3 тыдні) і гэта вымушае падрыхтоўчую работу весьці з большай напружанасьцю і выправіць недахопы, якія маюцца зараз у гэтай галіне.

## Падрыхтоўка выбаршчыкаў.

Асноўным і важнейшым пытаньнем падрыхтоўчага парыядку зьяўляецца падрыхтоўка выбаршчыка да справаздачнай і перавыбарчай часткі кампаніі. Сутнасьць гэтай падрыхтоўкі заключаецца ў тым, каб расьлумачыць выбаршчыку ўсю важнасьць кампаніі, важнасьць якакі выбаршчыкаў на справаздачныя і выбарчыя сходы і іх актыўнага ўдзелу ва ўсёй кампаніі.

падрыхтоўчых мерапрыемствах абмяжоўваюцца дачай агульных указаньняў сельсаветам прыступіць да падрыхтоўчай работы. Маюцца таксама ў некаторых акругах недахопы ў галіне кіраўніцтва. Так, напр., Магілеўская акруга: акружная выбарчая камісія была арганізавана 10 верасьня, а 1-ае яе пасяджэньне па пытаньнях перавыбараў было толькі 23 кастрычніка, на якім яна пастанавіла: «у бліжэйшы час даць месцам падрабязныя дырэктывы аб парадку правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі». Зусім зразумела, што канкрэтныя дырэктывы аб правядзеньні кампаніі трэба было даць некалькі раней.

Такая важная і разам з тым складаная кампанія патрабуе сталага і нягслабнага кіраўніцтва і сыстэматычнай праверкі выкананьня з аднаго боку і з другога ніжэйстаячы савет і выканком павінны мець на ўвазе, што ажыцьцяўленьне поўнага і пасьпяховага кіраўніцтва магчыма пры точным і своечасовым выкананьні дырэктыў вышэйстаячага выканкому. Адным з недахопаў кіраўніцтва зьяўляюцца і некаторыя парушэньні дапускаемыя ў карыстаньні інструкцыяй.

# ПРАЦА І СТАНОВІШЧА РАДАМЛЯНСКАГА СЕЛЬСАВЕТУ.

Сельсавет складаюць 11 сяброў с.-сав. з якіх сяброў партыі—1, і сяброў КСМ —1, адна жанчына і астатнія беспартыйныя з бедняты. Кіраўніцтва сельсаветам і ўсімі грамадзкімі арганізацыямі ажыцьцяўляе партыйная ячэйка. У сельсавеце існуюць: камсамольская ячэйка, с.-г. крэдытнае т-ва, спажывецкая кааперацыя, малочная арцель і інш. арганізацыі.

Мы ў сучасны момант маем ячэйку Чырвонага Крыжу, якая налічвае 76 сяброў, з іх 90 проц. сялян і сялянак. Ячэйкай вядуцца гутаркі з насельніцтвам аб заразьлівых і інш. хваробах, выпушчана школа першай дапамогі 27 сялянак. Зьбіраемся ў хуткім часе зрабіць яшчэ адзін выпуск.

За 1928 г. сельсавет працуе прытрымліваючыся пляну. Спачатку году праробдена наступнае:

Праведзена самаабкладаньне па с.-с. на рамонт і пабудову школ. Сабрана грошай ад самаабкладаньня 1342 р. на якія сродкі пабудавана к тэрміну навучальнага году адна двухкамплектная школа ў вёсцы Белівіцы і адрамантавана пад школу памяшканьне ў б. маёнтку Аляксандраўка. Таксама быў зроблен рамонт шляхоў, дарог, мастоў, зроблена 4 новых масты і папраўлена тры старых.

Рэалізавана сялянскае пазыкі ўзмацненьня гаспадаркі на 700 руб.

У сучасны момант разгорнута праца па рэалізацыі 2-е пазыкі індустрыялізацыі. Ужо распаўсюджана аблігацый на 110 руб. Па папярэдняй калектыўнай падпісцы падпісаліся на 200 руб. і яшчэ засталося нераспаўсюджанай пазыкі на 90 руб. Гэта сума ня ўключае служачых розных устаноў, якія падпісаліся на пазыку на месячную пэнсію. Зараз ужо сельсаветам вядзецца праца па падрыхтоўцы да перавыбараў саветаў.

Насельніцтва с.-с. жадае адчыніць у с.-с. школу сямёхгодку; памяшканьне ў сельсавеце ёсьць, справа толькі за райвыканкомам, які павінен вылучыць патрэбныя сродкі.

Старшыня Радамлянскага
с.-савету **В. КАПІТОНАЎ.**

# Парушэньні і адхіленьні ад інструкцыі.

Да гэтага часу яшчэ ня досыць поўна прапрацавана інструкцыя асабліва пытаньні пазбаўленьня і аднаўленьня ў выбарчых правох і арганізацыі выбарчых камісій. Напрыклад: Рэчыцкая гарадзкая выбарчая камісія сама аднаўляе ў выбарчых правох быўш. паліцэйскіх у той час, як у інструкцыі ясна сказана, што права аднаўляць былых паліцэйскіх належыць толькі прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту. Далей, Добружскі гарсавет у склад выбарчай камісіі ўводзіць прадстаўнікоў ад ячэйкі мясцовага настаўніцтва і ня вылучае адпаведнага прадстаўніка ад нацменшасьцяй: гэта таксама сьведчыць аб няўважлівай прапрацоўцы інструкцыі. Яшчэ прыклад: Віцебскі акрвыканком устанаўлівае ў парадку дню сельскіх выбарчых сходах, выбары на раённыя зьезды саветаў, у той час, як гэта павінен рабіць пленум сельсавета. Гэтых прыкладаў можна было-б прывесьці і яшчэ з маючыхся ў Цэнтральнай Выбарчай камісіі матар'ялаў. Які вывад трэба з гэтага зрабіць? А вось які: трэба акружным, раённым выканкомам і выбарчым камісіям пездкладна праверыць пытаньне наколькі інструкцыя прапрацавана кіруючымі органамі саветаў, як яны яе канкрэтна ажыцьцяўляюць у прыватнасьці ў пытаньнях пазбаўленьня і аднаўленьня ў правох і вылучэньня органаў кіруючых перавыбарчай кампаніі—выбарчых камісій. Цэнтральная выбарчая камісія ня мае магчымасьці прасачыць непасрэдна за выкананьнем інструкцыі ў нашых сельскіх і местачковых саветах. Тут трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу раённым і акружным выканкомам і выбарчым камісіям.

Вось галоўныя моманты падрыхтоўчай работы яшчэ некалькі заўваг аб падрыхтоўцы кандыдатур,—наказаў і арганізацыі сходаў.

На мясцох амаль ужо прыступілі да падрыхтоўкі кандыдатур. Вось адна з дырэктыў РВК, якая зьяўляецца ўвогуле характэрнай для большасьці райвыканкомаў: «сельсаветам і прэзыдыумам РВК прыступіць да падрыхтоўкі кандыдатур у склад саветаў і РВК, асаблівую ўвагу зьвярнуць на большую падрыхтоўку кандыдатур батрацтва і жанчын, работу гэту праводзіць пры шырокім удзеле мясцовых, грамадзкіх органаў на вёсцы (СКСТУ, зямлі і лесу, дэлегатак)». У нас яшчэ няма поўных вестак аб тым, як гэтыя дырэктывы ажыцьцяўляюцца ў сельсаветах, але некаторыя факты гавораць аб тым, што гэтым пытаньнем на мясцох ужо займаюцца.

Іду гэтай галіне ёсьць парушэньні і адхіленьні ад інструкцыі. Вось што паведамляе адзін з райвыканкомаў Віцебскай акругі: «Вашы наказаньні аб прыступленьні да падбору кандыдатур у сельсаветы і РВК прыняты пад увагу і будуць праведзены ў жыцьцё, прычым РВК не знайшоў мэтазгодным зараз-жа перадаць гэту справу сельсаветам раёну і прадбачыць правесьці іншым парадкам».

Аб наказах можна сказаць, што ўвогуле падрыхтоўка да іх складаньня ідзе правільна: бярэцца пад увагу думка сельсаветаў, выбаршчыкаў і інш.

І апошняе—аб абвестках. Абвесткі, як вядома, маюць вялікае значэньне ў кампаніі. Прэзыдыум ЦВК БССР згадзіўся з прапановай Цэнтральнай Выбарчай камісіі аб устанаўленьні крымінальнай адказнасьці за няўручэньне абвестак. Катэгарычна трэба дабіцца таго, каб абвестка была ўручана ў свой час і непасрэдна таму выбаршчыку на імя якога яна напісана.

Неабходна працягнуць разгортваньне і паглыбленьне падрыхтоўкі гэтай важнейшай палітычнай кампаніі. Трэба шырэй прыцягнуць да гэтай працы рабочую масу і бядняцка-серадняцкі актыў вёскі. На мясцох павінны прыняць пад увагу ўсе недахопы, памылкі, своечасова іх выправіць з тым, каб з поўнасьцю забясьпечыць найлепшыя вынікі прадстаячай перавыбарчай кампаніі.

**І. Файнбург.**

# Аб правах сельсаветаў выдаваць абавязковыя пастановы.

Ажыўленьне дзейнасьці сельскіх саветаў шчыльна зьвязана з пашырэньнем іх правоў, з падвядзеньнем пад іх дзейнасьць цьвёрдай эканамічнай базы, з утварэньнем самастойных сельскіх бюджэтаў. У заканадаўстве як СССР гэтак і БССР ёсьць імкненьне да таго, каб сельсаветы зрабіць сапраўднымі гаспадарамі на займаемай імі тэрыторыі, у БССР досыць значнай па сваіх разьмерах.

У сувязі з гэтым своечасова падняць пытаньне аб праве сельскіх саветаў БССР выдаваць абавязковыя пастановы і накладаць за іх парушэньне ўзысканьні.

У сучасны момант сельскія саветы БССР дзейнічаюць на падставе «Палажэньня аб сельскіх саветах» ад 3 ліпеня 1925 г. Арт. 2 гэтага палажэньня устанаўляе, што «пастановы сельскага савету, у межах дадзеных яму праў, павінны абавязкова выпаўняцца насельнікамі данае мясцовасьці". З гэтага артыкулу вынікае права сельскага савету выдаваць абавязковыя пастановы «у межах дадзеных яму праў". Наяўнасьць гэтага права ў сельскага савету пацьвярджаецца і іншымі мясцамі паказанага палажэньня. Так, напрыклад, п. „н" арт. 14 гаворыць, што ў галіне кіраўніцтва і аховы рэвалюцыйнага парадку на сельскі савет ускладаюцца «заходы перад райённым выканаўчым камітэтам аб адміністрацыйным пакараньні за парушэньне пастаноў сельскіх саветаў».

Ёсьць у палажэньні і такія пункты, якія сьведчаць аб практычнай неабходнасьці для сельскіх саветаў права выдаваць пастановы, абавязковыя для ўсяго насяленьня, пражываючага на тэрыторыі сельскага савету. Напрыкл., на сельскія саветы ўскладаюцца абавязкі прыцягненьня насяленьня да барацьбы з стыхійнымі няшчасьцямі, прыватна з лясными пажарамі, паводкамі, шкоднікамі расьлін і інш. (п. „з" арт. 14), нагляд за санітарным становішчам вёскі, асабліва за пабудоваю і палепшаньнем крыніц вады, якая ўжываецца насельніцтвам, прыняцьце мер к палепшаньню санітарных умоў (п. «е» арт. 21) і інш.

Паводле сказанага трэба было-б чакаць, што ў разьвіцьцё прыведзеных месц Палажэньня аб сельскіх саветах пытаньні аб выданьні сельскімі саветамі абавязковых пастаноў будзе рэгулявана адпаведным законам. Такім законам зьявілася „Палажэньнэ аб парадку выданьня акружнымі і райённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне,» якое было выдадзена 10 ліпеня 1925 г., гэта значыць праз тыдзень пасьля выданьня Палажэньня аб сельскіх саветах. Як відаць з аднае назвы гэтага закону, у ім пытаньне аб абавязковых пастановах сельскіх саветаў не закранаецца. Гэты закон вызначыў кола тых пытаньняў, якія акруговыя і райённыя выканаўчыя камітэты могуць рэгуляваць абавязковымі пастановамі.

Значыцца аб праве выданьня сельскімі саветамі абавязковых пастаноў сказана толькі ў Палажэньні аб сельскіх саветах. Парадак скарыстаньня гэтага права ня вызначан. Пры гэтым трэба яшчэ зьвярнуць увагу на тую акалічнасьць, што, як гэта відаць з вышэй прыведзеных месц, у Палажэньні аб сельскіх саветах ўжываецца назва „Пастановы сельскага савету» і да гэтае назвы слова „абавязковыя» ня ўжываецца. Але гэта сутнасьці справы ніколькі не зьмяняе.

Калі сельскія саветы маюць права паднімаць перад райённымі выканаўчымі камітэтамі справу аб пакараньні грамадзян за невыкананьне іх пастаноў, значыцца гэтыя пастановы для грамадзян зьяўляюцца абавязковымі.

22-га сьнежня 1927 г. ЦВК і СНК БССР выдалі пастанову, распрацаваную НК РСІ, аб рэарганізацыі і спрашчэньні савецкага апарату і аб пашырэньні праў мясцовай улады. У арт. 83 гэтай пастановы, які гаворыць аб пашырэньні праў сельскіх і местачковых саветаў у галіне кіраваньня і аховы рэвалюцыйнага парадку, пра адносіны гэтых саветаў да абавязковых пастаноў сказана, што яны «накладаюць за парушэньне абавязковых пастаноў выканаўчых камітэтаў парадкам, прадугледжаным інструкцыяй Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, штрафы ня больш, як тры рублі і прымусовыя работы без трыманьня пад вартаю ня больш як на тры дні, з правам замены аднаго віду адміністрацыйнага пакараньня другім».

Такім чынам, законам ад 22 сьнежня 1927 г. даецца права сельскім саветам караць за парушэньне абавязковых пастаноў акруговых і райённых выканаўчых камітэтаў, калі апошнія ў сваіх абавязковых пастановах прадаставяць гэтыя правы сельскім саветам. Але гэта не вырашае пытаньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў сельскімі саветамі.

17-га мая 1928 г., у скасаваньне паказанага вышэй Палажэньня ад 10 ліпеня 1925 г. аб парадку выданьня абавязковых пастаноў, была прынята пастанова «пра парадак выданьня акруговымі і райённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне». Зноў такі, як відаць з назвы гэтага закону, парадак выданьня сельскімі саветамі абавязкавых пастаноў у ім не вызначан. У гэтай пастанове запісана толькі, у адпаведнасьці з пастановай аб рэарганізацыі і спрашчэньні савецкага апарату, права сельскіх саветаў караць за парушэньне абавязковых пастаноў АВК і РВК.

У выніку ўсяго сказанага, мы прыходзім да наступных вывадаў. Згодна Палажэньня аб сельскіх саветах апошнія маюць права выдаваць абавязковыя пастановы. Пры наяўнасьці ў іх гэтага права, няма вызначанага парадку яго карыстаньня. Да гэтага часу няма закону, які-б рэгуляваў выданьне сельскімі саветамі абавязковых пастаноў, вызначыў-бы кола тых пытаньняў, па якіх могуць быць выданы абавязковыя пастановы, парадак іх выданьня, парадак абвяшчэньня іх насельніцтву, прыцягненьня вінаватых у парушэньні пастаноў да адказнасьці і г. д.

Такое становішча прывяло да таго, што самае права сельскіх саветаў выдаваць абавязковыя пастановы лічыцца фактычна скасаваным і гэтае пытаньне як-бы зьяўляецца новым.

Такое-ж зьявішча назіралася і ў РСФСР. Там таксама ў Палажэньні аб сельскіх саветах выданьня 1924 г. ёсьць артыкул аб тым, што «ўсе пастановы і загады сельскага савету, якія не супярэчаць існуючым законам,абавязковы да выкананьня ў межах яго тэрыторыі», але ў пастанове аб парадку выданьня абавязковых пастаноў гэтае права сельсаветаў ня было агаворана. Зараз у РСФСР гэтае пытаньне вырашана станоўча. Там 21-га лістапада 1927 г. прынята «Палажэньне аб выданьні валаснымі і райённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі саветамі заштатных гарадоў і сельскімі саветамі абавязковых пастаноў і аб накладаньні за іх парушэньне ўзысканьняў у адміністрацыйным парадку» (Збор. З. РСФСР за 1927 г. № 120, арт. 812). Праўда, згодна гэтага Палажэньня, у РСФСР маюць права выдаваць абавязковыя пастановы толькі паасоб-

ныя сельскія саветы эканамічна-магутных і многанаселеных вёсак, калі ім гэта права будзе прадастаўлена губэрскімі або акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

Гэтым сельскім саветам, згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 5 верасьня 1928, г. надаецца права ў парадку заканадаўства саюзных рэспублік, пакладаць за парушэньне іх абавязковых пастаноў штрафы ня больш 1 р.

Можа быць зададзена пытаньне: нашто сельскім саветам права выдаваць абавязковыя пастановы, ці ёсьць там такія галіны вясковага жыцьця, якія трэба рэгуляваць абавязковымі пастановамі? Бязумоўна, ёсьць. Ня ўсе справы можна вырашаць ў раённым маштабе. У кожнай вёсцы ёсьць свае асаблівыя патрэбы і інтарэсы. Як, напрыклад, у якім парадку забараніць па якіх-небудзь мясцовых умовах карыстаньне вясковым вадаёмам, наўным шляхам, устанавіць парадак карыстаньня пераправай праз раку, устанавіць месца мыцьця бялізны, мочкі канаплі, чысткі труб і г. д.?

Усе гэтыя справы, як датычныя толькі да аднае якой-небудзь вёскі могуць быць вырашаны толькі сельскім саветам і толькі ў парадку выданьня абавязковых пастаноў.

Трэба адзначыць, што нашыя сельскія саветы значна выраслі. Іх дзейнасьць працякае пад грамадзкім кантролем. Баяцца таго, што сельскія саветы ня змогуць правільна скарыстаць нададзенае ім права—ня прыходзіцца. Калі будзе закон аб парадку выданьня сельскімі саветамі абавязковых пастаноў, то пры дапамозе райённага выканаўчага камітэту сельсаветы не памыляцца ў тым, што можна будзе рэгуляваць абавязковымі пастановамі і чаго нельга. Зусім ня прыходзіцца баяцца таго, што сельскія саветы будуць злоўжываць штрафамі, хоць-бы з тае прычыны, што згодна саюзнага закону штраф ня можа быць больш аднаго рубля.

Новае пашырэньне праў сельскіх саветаў яшчэ больш падыме аўтарытэт савету, дасьць ім магчымасьць больш поўна кіраваць мясцовым жыцьцём.

У сучасны момант перапрацоўваецца палажэньне аб сельскіх саветах, у якім пытаньне адносна выданьня абавязковых пастаноў павінна быць вырашана у яснай форме. Калі гэта права нельга даць усім сельсаветам наогул, то яго, бязумоўна, трэба даць тым сельскім саветам, якія маюць свае самастойныя бюджэты.

Вельмі важна і пажадана ведаць думкі несц, асабліва раённых і сельскіх работнікаў па закранутым пытаньні.

**А. Пятосін.**

---

# За якасьць масавай работы ў гарадзкіх саветах.

Масавую работу гарадзкіх саветаў за апошнія два гады можна характарызаваць замацаваньнем ае арганізацыйных форм, уцягненьнем абсалютнай большасьці дэпутатаў у работу сэкцый, камісій і пленумаў, і паступовым разгортваньнем у асобных гарадзкіх саветах працы па залучэньні ў сэкцыі рабочых з прадпрыёмства, жанчын-дэлегатак і іншых працоўных, ня членаў саветаў.

Пры перавыбарах гарадзкіх саветаў у 1926-27 годзе ўсюды адзначалася, што пленумы іх у большасьці зьбіраліся толькі на ўрачыстыя пасяджэньні, а сэкцыі пасьля арганізацыйнага афармленьня амаль-што ніякай работы ня выконвалі.

Паўтарагадовая праца гарадзкіх саветаў, абраных у 1927 годзе, ня толькі зьмяніла зазначаную вышэй характарыстыку іх масавай работы, але нават і дала ўзорныя прыклады гэтай работы ў паасобных саветах.

Калі ўзяць работу пленумаў гарадзкіх саветаў, дык урачыстасьці іх для абсалютнай большасьці ў сучасны момант зьяўляюцца толькі ўспамінам. Пленумы, асабліва акруговых гарсаветаў, займаюцца выключна дзелавой работай. Разьвязваньне асноўных гаспадарчых і культурных пытаньняў, даклады прадпрыёмстваў і ўстаноў, вось галоўны зьмест работы пленумаў. Пытаньне аб наведваньні пленумаў асобнымі дэпутатамі патрабуе больш дасканальнага вывучэньня; нельга супакоіцца на тым, што на асобныя пасяджэньні пленумаў зьяўляецца 70 і нават 90 проц. дэпутатаў, сярэдні процант наведваньня для ўсіх гарадзкіх саветаў не перавышае 60. У Аршанскім гарадзкім савеце наведваньне ў 1927 г. у сярэднім было 55,5 проц., а ў 1928 годзе—яно зьменшылася да 51 проц.

Акрамя прычын суб'ектыўнага зьместу, можна лічыць, што рашаючым момантам у справе наведваньня дэпутатамі сваіх пленумаў зьяўляецца наступнае: зьмест пытаньняў, якія ўносяцца на абмеркаваньне пленарных пасяджэньняў, якасьць іх падрыхтоўкі і своечасовае абвяшчэньне дэпутатаў аб дню пасяджэньня. Прыходзіцца канстатаваць, што і зьмест пытаньняў, і іх падрыхтоўка, і іншае ў значнай колькасьці гарадзкіх саветаў ня маюць яшчэ патрэбнай якасьці. Вельмі часта на пленумы гарадзкіх саветаў важныя гаспадарчыя пытаньні ставяцца з вялікім спазьненьнем. Гэта датычыцца такіх пытаньняў, як цэнкасьці з хлебам, бюджэт і вынікі навучальнага году.

Апошняе пытаньне чамусьці абмяркоўваецца большасьцю гарадзкіх саветаў у жніўні і нават у верасьні м-цы. Пытаньне аб хлебных цяжкасьцях таксама разглядаецца на пленумах пасьля таго, як яно амаль што цалкам вырашана вышэйшымі органамі.

Падрыхтоўка асобных пытаньняў да пленумаў у рабоце гарадзкіх саветаў не займае патрэбнага месца: сэкцыі ў гэтую справу ўцягнуты слаба. Такія пытаньні, як плян гарадзкіх работ, плян работы па дабрабыту гораду, падрыхтоўка да навучальнага году, заслухоўваюцца пленумамі без садакладаў сэкцый. Матар'ялы па бюджэту на 1928-29 год некаторымі саветамі былі разасланы дэпутатам за некалькі гадзін да пленуму.

Усе адзначанае пацьвярджае той вывад, што справа падрыхтоўкі пленумаў пастаўлена амаль што ва ўсіх гарадзкіх саветах нездавальняюча.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ў дырэктывах аб узмацненьні масавай работы гарадзкім саветаў раіў, каб Менскі, Віцебскі і Гомельскі саветы па пытаньнях бюджэту камунальнай гаспадаркі і інш. практыкавалі сэсійныя пленумы. Ні адзін з адзначаных гарсаветаў такога спосабу ў сваёй рабоце ня ўжылі. А між іншым нельга гаварыць, каб бюджэт Гомельскага гарсавету альбо Віцебскага можна было досыць стала абмеркаваць на працягу якіх-небудзь трох-чатырох гадзін. У бліжэйшыя часы спосаб сэсійных пленумаў неабходна практыкаваць, ад гэтага якасьць работы пленумаў гарадзкіх саветаў палепшыцца.

Работа сэкцый гарадзкіх саветаў палепшылася, але гэтае палепшаньне пакуль што ў большасьці мае характар колькаснага зьместу. Па вестках

18-ці гарадзкіх саветаў у складзе 104-х сэкцый членаў саветаў—1952 і ня членаў—1072 альбо 35,4 проц. Каб толькі ўвесь гэты актыў на сэкцыйнай рабоце быў выкарыстан як валажыць, бязумоўна, якасьць масавай работы саветаў значна палепшылася-б.

У большасьці гарадзкіх саветаў пасяджэньні сэкцый адбываецца прыблізна так: камунальная і каапэрацыйная ў сярэднім 1,5 разоў у месяц, народнай асьветы і аховы здароўя адзін раз у месяц, астатнія—адзін раз у два месяцы і нават раз у тры месяцы. Пасяджэньні сэкцый па сваім зьместу це носяць выключна дзелавы характар. Праўда, у гэтай рабоце ёсьць шмат недахопаў, але галоўнае—дзелавая роль сэкцый паступова вызначаецца даволі яскрава. Пры наліччы адзначаных дасягненьняў (колькаснага зьместу, якасьць сэкцыйнай работы набывае надзвычайна вялікае значэньне.

Практычная нагрузка ў сэкцыях дэпутатаў, дэлегатак-практыкантак і залучаных выбаршчыкаў—у першую чаргу рабочых павінна быць вырашана як мага хутчэй. Ад станоўчага вырашэньня гэтага пытаньня цалкам залежыць якасьць работы ў сэкцыях. Формамі практычнага выкарыстаньня ў сэкцыях дэпутатаў і прымацаваных зьяўляецца: абсьледвацельскія камісіі, групы, прымацаваньне, дзяжурствы. Адзначаныя формы ў той ці іншай ступені ўсімі гарадзкімі саветамі ўжываюцца. Ёсьць узорныя прыклады ў рабоце прымацаваных, у абсьледавацельскай рабоце, але ўсё-ж такі большасьць гэтай работы яшчэ па якасьці ня досыць высокая. Асноўная прычына апошняга—слабасьць работы бюро сэкцый і недосыць кіраўніцтва з боку прэзыдыўмаў гарадзкіх саветаў. Бюро сэкцый слаба кіруюць работай прымацаваных, вельмі рэдкія выпадкі інструкцыйных нарад са складам абсьледавацельскіх камісій і груп на справах вызначанага абсьледаваньня прадпрыемства, ўстановы. Прэзыдыўмы саветаў мала займаюцца вывучэньнем асобных відаў масавай работы. Адсутнічае аналіз работы, яе вучот і выкарыстаньне лепшых прыкладаў. З гэтага пункту гледжаньня конкурс на лепшую сэкцыю гаарадзкога савету явіцца моцным штуршком у справе далейшага ажыўленьня масавай работы і палепшаньня яе якасьці.

Лаўрыновіч.

# Савецкі актыў і яго вучот.

Перад нашай пралетарскай савецкай краінай стаяць велізарныя задачы ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, якія выклікаюць неабходнасьць на працягу бягучых гадоў ажыцьцявіць шэраг буйнейшых гаспадарча-эканамічных і сацыяльна-культурных мерапрыёмстваў. Ажыцьцяўленьне гэтых задач павінна быць праведзена праз дзяржаўны апарат і нізавыя органы на мясцох—саветы. Для пасьпяховага вырашэньня гэтых задач неабходна як найлепей прыстасаваць увесь савецкі апарат.

Што-ж для гэтага належыць зрабіць? Перш за ўсё для гэтага неабходна ўцягнуць самыя шырокія масы ў справу савецкай работы. Тав. Ленін казаў: «Савецкая ўлада ёсьць апарат для таго, каб маса пачала скора вучыцца кіраўніцтву дзяржавою і арганізацыі вытворчасьці ў агульна-нацыянальным маштабе».

У другім месцы ён кажа: „Для нас важна ўцягненьне ў кіраўніцтва дзяржаваю ўсіх працоўных. Гэта гіганцкая цяжкая задача. Сацыялізму ня можа ўвесьці партыйная меншасьць, яго могуць увесьці дзесяткі мільёнаў, калі яны навучацца ўсё рабіць самі“.

Гэтыя ўказаньні Ўладзімера Ільліча Леніна асабліва яскрава падкрэсьліваюць тое агромністае значэньне, якое надавалася ім справе ўцягненьня самых працоўных у практычную работу саветаў.

Якім-жа парадкам праводзіцца гэтае ўцягненьне? Не малую колькасьць рабочых і сялян мы ўцягваем шляхам непасрэдных выбараў у саветы і іх органы. Але-ж праз саветы мы ахапляем толькі меншую частку таго актыву вёскі, мястэчка і гораду, які там маецца. Значная-ж частка яго застаецца яшчэ ня ўцягнутаю ў работу саветаў. Адной з галоўных перашкод у гэтай справе зьяўляецца тое, што вучот самога актыву ў саветах і выканкомах не наладжан, дзякуючы, галоўным чынам, рознастайнасьці разуменьня на мясцох, каго лічыць актывістым. У адным месцы актывістым лічуць селяніна-перадавіка, які добра вядзе сваю гаспадарку, у другім—за актывістага прымаюць грамадзяніна, выступаючага на сходах (пры гэтым ня ўлічваюцца яго настроі і імкненьні), у іншых мясцох за актывістага лічуць толькі члена савета.

Каго-ж сапраўды трэба лічыць актывістым, выразна сфармуляваны тав. Молатавым у дакладзе яго на XV партыйным зьезьдзе. «Беспартыйны сялянскі актыў—гэта вясковыя перадавікі, гэта тыя, якія вядуць грамадзка-рэвалюцыйную работу ў вёсцы. У першую чаргу гэта тыя, якія працуюць у нашых саветах: старшыня, члены савету, члена вік'аў і райвыканкомаў. Акрамя работнікаў саветаў—да таго-ж беспартыйнага актыву павінны быць аднесены актыўныя добрасумленныя работнікі нашага вясковага каапэратыву: сельска-гаспадарчай, спажывецкай і кустарна-прамысловай каапэрацыі, а таксама работнікі камітэтаў сялянскай узаемадапамогі. Вось усе гэтыя работнікі саветаў, каапэрацыі, селькомаў, сялянкі-дэлегаткі, перадавыя работнікі сельскай інтэлігенцыі, селькоры, а сумесна з імі і сяляне, сапраўды ўдзельнічаючыя ў грамадзкім жыцьці вёскі, складаюць шырокі сялянскі актыў».

У адпаведнасьці з гэтым азначэньнем актыву—саветам на будучы час трэба дамагацца аб'яднаньня навакол сябе і залучэньня ў працу сваю і камісій усіх членаў саветаў, членаў каапэрацыі, членаў камітэтаў сялянскай узаемадапамогі, жанчын - дэлегатак, селькораў, прадстаўнікоў камсамолу, партыйнай ячэйкі, прафсаюзных арганізацый, настаўнікаў, аграномаў, мэдыцынскіх работнікаў, а таксама і тых сялян-перадавікоў культурнікаў, якія прыхільны да савецкае ўлады і шчыра жадаюць дапамагчы ёй у справе праядзеньня гаспадарчых і іншых культурных мерапрыемстваў.

Колькасьць савецкага актыву па на зусім точным падліку па БССР характарызуецца наступнымі лічбамі: членаў сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў, членаў раённых акруговых і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту разам з членамі рэвізійных камісій пры сельскіх і местачковых саветах і райвыканкомах—36.513 чалавек.

Дадаўшы да агульнай колькасьці членаў саветаў і выканкомаў складаючую каля $^1/_3$ яе колькасьць кандыдатаў у члены гэтых органаў будзем мець па БССР у круглых лічбах да 48.000 чалавек.

У камісіях сельскіх саветаў працуе

на прыблызным падліку больш 40.000 чалавек, з якіх у круглых лічбах каля 17-18 тысяч членаў саветаў і каля 22-23 тысяч актыву.

У сэкцыях гарсаветаў працуе да 4.000 членаў і кандыдатаў саветаў і да 2.000 актыву.

Апрача гэтага, ў круглых лічбах па БССР маецца ва ўсіх органах камітэтаў сялянскай ўзаемадапамогі выбраных членаў 32.000, нарзасядацеляў—30.000, страхавых упаўнаважаных—13.457 чалавек, ва ўсіх органах спажывецкай каапэрацыі—39.000, у органах рабочай каапэрацыі 1.252 чалавекі, у органах сельска-гаспадарчай каапэрацыі 17.782 чалавек, па саматужнай каапэрацыі—1.109, у жаночых далегацкіх сходах—28.000 чал., што разам з актывам саветаў і выканкомаў складае каля 235.000 актыву, альбо дзесяты процант да агульнага ліку выбаршчыкаў.

Такім чынам агульная колькасьць актыву вёскі, мястэчка і гораду складае вельмі значны пласт працоўнага насельніцтва па БССР. Саветы і выканкомы змогуць надаць сваёй працы характар масавасьці тагды, як усю гэту шматтысячную масу актыву з'арганізуюць навакол сябе і ўцягнуць яе ў сваю практычную работу. Для гэтага перш за ўсё неабходна завесьці дакладны вучот усяго актыву, пры чым, вельмі пажадана, каб у вучоце актыву быў належны адбітак ня толькі колькаснага росту актыву (па гадох, па галінах выконваемай работы), але і якаснага (які пэрыяд часу актывісты прымае удзел у рабоце, у якой колькасьці камісій працуе, як спраўляецца з практычнай работай, да якой працы найбольш прыхільны), што мае асаблівую карысьць для справы падбору кадраў для вылучэньня на самастойную кіруючую работу. Пры гэтым неабходна дадаць, што вучот актыву, вельмі для нас патрэбны, павінен пэрыядычна (хаця-б пакваргальна) правярацца з пункту гледжаньня ўключэньня нова завербаваных актывістых з аднаго боку, і выключэньня з вучоту адсеянай часткі яго—з другога. Завёўшы належны вучот усяму складу актыву, саветы і выканкомы змогуць лепей паладзіць выхаваўчую працу з самымі актывістымі, лепш змогуць падтрымаць сувязь з масамі і ў большай меры ажыцьцявіць лёзунг аб ажыўленьні працы саветаў, шляхам уцягненьня ў сваю работу працоўных мас.

А. Л.

# Працу сельсавету пад абстрэл.

Нядаўна адбыўся сход В.-Крушынаўскага гуртка селькораў, дзе быў абгаворан даклад аб самакрытыцы і аб бягучых задачах працы селькораў на вёсцы. Даклад аб самакрытыцы выклікаў вельмі жвавыя спрэчкі. Выступаўшыя адзначалі ўсе недахопы працы тых органаў, з якімі сялянства В.-Крушынаўскага сельсавету мела дачыненьне, пачынаючы ад сельсавету, КСТУ і канчаючы лясьніцтвам і РВК. Шмат гаварылі аб няўвязцы працы па ўсёй лініі саветаў: пытаньні, якія трэба загадзя прапрацаваць камісіям пры сельсавеце вырашае прэзыдыум сельсавету з двох чалавек: старшыні і сэкратара сельсавету. Паміж сельсаветам і РВК ідзе папяровая цяганіна, бо РВК дае абежнік, а не растлумачвае, як яго выканаць, а сельсавет добра не разабраўшыся пацее, працуе, а як пойдзе гэта праца ў РВК, дык яе там зганяць. Напрыклад, некаторыя сельсаветы рабілі скідку беднякам на 50 проц. па страхоўцы, а РВК ужо пасьля сваёй памылкі піша, што трэба скідку рабіць поўнасьцю і ўся справа накіроўваецца дзеля паўторнага выкананьня. Гаварылі, што ў лясьніцтвах ёсьць такія выпадкі бюракратызму, якія заслугоўваюць увагі і каму сьлед неабходна зрабіць чыстку ўсяго апарату, У бягучых справах селькораў ухвалілі ўсю ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку да перавыбараў сельсавету. Насьценгазэта павінна ўзяць пад абстрэл працу сельсавету па ўсіх галінах і зрабіць належныя вывады, бо наш сельсавет паказаў у сваёй працы, што яму трэба поўнае аднаўленьне. За гэта аднаўленьне павінен узяцца гурток селькораў.

Я. Крушына.

# Дрэнная праца.

Глазаўскі сельсавет, Уваравіцкага раёну, Гомельскай акругі абслугоўвае 13 насельных пунктаў. У сельсавеце лічыцца 19 чал. членаў сельсавету, з якіх 17 мужчын і 2 жанчыны. Члены сельсавету ў большасьці серадняки.

Сельсаветам сёлетняй вясной было арганізавана машыннае таварыства, аддзяленьне малочнай арцелі і мэліарацыйнае таварыства. Але трэба сказаць, што ў большасьці працуе толькі старшыня сельсавету, а члены толькі лічыліся на паперы і нічога за такі вялікі час імі ня зроблена. Няма нават групы беднаты. Былі такія прыклады, калі прыходзіла справаздачная кампанія па адзіным сельска-гаспадарчым падатку, дык некаторыя члены сельсавету самі стараліся ўтаіць ад падатку якога-небудзь парсючка. Другі прыклад, калі праходзіла самаабкладаньне насельніцтва, дык некаторыя члены сельсавету зрывалі сходы і крычалі, што самаабкладаньня нам непатрэба, але калі самаабкладаньне было праведзена усе засталіся задаволены, бо на гэтыя сродкі адрэмантавана школа, куплена 6 бычкоў, пабудаваны дарогі і малыя масты. У час вясеньняй пасяўной кампаніі ў пасёлку «Васілеўка» было сялянамі ачышчана 360 пуд. збожжа, а іншыя насельныя пункты, а таксама і члены сельсавету ніхто і хунта не ачысьціў. Як відаць члены сельсавету ніякай працы не вялі, а працаваў толькі старшыня. Глазаўскі сельсавет найбольш адсталы ў раёне. Але хто-ж у гэтым вінават? Сельсавет і РВК мала зьвярталі на гэта ўвагі, як быццам ня цікавіліся працай сельсавету. А калі-б усе сябры працавалі добра, дык больш было-б зроблена і сельсавет стаяў-бы на належнай вышыні.

Андрэй Карлоўскі.

## Таварышы, рыхтуйцеся да перавыбараў саветаў!

Менск, друкарня „БДВ“. Галоўлітбел № 302.